# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### ЗА ВЯЛІКІЯ ЗАСЛУГІ

За вялікія заслугі перад Камуністычнай партыяй і Савецкай дзяржавай у будаўніцтве і ўмацаванні Узброеных сіл СССР і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння члена Палітбюро ЦК КПСС, міністра абароны СССР, героя Савецкага Саюза, Маршала Савецкага Саюза **Андрэя Грэчку** ўзнагародзілі ордэнам Леніна і другім медалем „Залатая Зорка". Прыняты таксама ўказ аб устанаўленні бронзавага бюсту на радзіме А. Грэчкі.

### БССР У САВЕЦЕ БЯСПЕКІ

Савет Бяспекі ААН складаецца з пятнаццаці членаў ААН: СССР, ЗША, Францыя, Англія і Кітай з'яўляюцца яго пастаяннымі членамі. Генеральная Асамблея выбірае акрамя таго дзесяць членаў ААН у якасці непастаянных членаў Савета Бяспекі, тэрмінам на два гады, пачынаючы ад 1 студзеня кожнага года. Штогод шляхам тайнага галасавання перавыбіраюцца пяць непастаянных членаў Савета Бяспекі.

Беларуская ССР выбрана ў Савет Бяспекі ад групы ўсходнееўрапейскіх краін на 1974—1975 гады. Адначасова ў Савет Бяспекі ад іншых геаграфічных груп краін выбраны Камерун, Коста-Рыка, Ірак, Маўрытанія.

### АМЕРЫКАНСКІЯ ПАСТАЎКІ

Тэль-Авіў звярнуўся да амерыканскага ўрада з просьбай тэрмінова пастаўіць яму 75 ваенных самалётаў, уключаючы „фантомы", а таксама танкі, артылерыйскія ўстаноўкі і ракеты.

Злучаныя Штаты „аднавілі пастаўкі ваеннага рыштунку Ізраілю", заявіў прадстаўнік дзяржаўнага дэпартамента Маклоскі.

### АБЛІЧЧА ВАЯК

„Мы неслі смерць, а вы захавалі нам жыццё, — заявіў ізраільскі лётчык, самалёт якога быў збіты над Сірыяй. — Нам загадвалі бамбіць цывільныя аб'екты, гаварылася: бамбіць Дамаск, любую цэль і любое месца".

Палонны лётчык сказаў, што ў Ізраіль яго выклікалі з Лондана, дзе ён меў магазін касметыкі. „Мяне запэўнівалі, што ізраільскія войскі хутка возьмуць Дамаск і я добра зараблю на ўдзеле ў вайне". Ён паведаміў, што сіяніцкія арганізацыі пагражаюць рэпрэсіямі тым яўрэям, якія адмаўляюцца ехаць у Ізраіль для ўдзелу ў вайне.

### ПАД УЛАДАЙ ХУНТЫ

З 16 кастрычніка г.г чылійцы павінны плаціць за асноўныя харчовыя тавары і прадметы першай неабходнасці намнога больш, чым пры ўрадзе Народнага адзінства. Рашэннем ваеннай хунты цэны на хлеб і малако павышаны ў чатыры разы, на цукар — у пяць разоў, на алей — у 6 разоў, на чай — у 18 разоў і г.д. У сярэднім цэны павышаны больш чым на 400 працэнтаў.

Міністр эканомікі, развіцця і рэканструкцыі хунты Ф. Леніс сказаў, што цэны павысіліся больш чым на 60 відаў харчовых прадуктаў і тавараў народнага спажывання. Ф. Леніс заявіў, што хунта перадасць прыватным уладальнікам сотні прадпрыемстваў, нацыяналізаваных урадам Народнага адзінства, або ўзятых пад рабочы кантроль. (ак)

## БССР

### ЛІТАРАТУРА НА ПЛАСЦІНКАХ

Усесаюзная фірма „Мелодыя" на працягу 15 гадоў выпусціла звыш ста доўгаіграючых пласцінак, запісаных творамі беларускіх пісьменнікаў і кампазітараў. Вучні восьмага класа беларускіх школ атрымалі своеасаблівую хрэстаматыю па літаратуры, якая складаецца з 16 пласцінак. На іх запісаны творы класічнай літаратуры і сучасных пісьменнікаў і паэтаў. Вучні маюць магчымасць слухаць шэдэўры беларускай літаратуры ў выкананні самых лепшых майстроў жывога слова. Адна з пласцінак прысвечана вобразу Леніна ў беларускай літаратуры. На ёй запісаны вершы Я. Коласа „Жыве між нас геній", „Заўсёды гатовы" П. Панчанкі, урыўкі з паэмы П. Броўкі „Заўсёды з Леніным" і А. Вялюгіна „Вецер з Волгі". З іншых літаратурных пласцінак гучаць галасы М. Танка, Я. Брыля, П. Броўкі, П. Панчанкі, І. Шамякіна, І. Мележа, А. Вялюгіна, А. Якімовіча.

### У ЗЕЛЬВЕ НОВЫ ДОМ КУЛЬТУРЫ

Рабочыя Слонімскага будаўнічага прадпрыемства закончылі будову двухпавярховага будынка ў гарадскім пасёлку Зельва, Гродзенскай вобласці. Гэты будынак прызначаецца на памяшканне раённага дома культуры. Пасля ўрачыстага адкрыцця новы дом культуры запоўнілі жыхары пасёлка. Яны глядзелі і слухалі артыстаў вакальна-інструментальнага ансамбля Беларускай дзяржаўнай філармоніі пад кіраўніцтвам Валянціна Бадзьярава.

### ФІЛЬМ ПРА ЛЁТЧЫКАЎ

Лётчыкам Беларускага ўпраўлення грамадзянскай авіяцыі прысвечаны новы хранікальна-дакументальны фільм „Заўсёды першы рэйс". Стужка створана творчым аб'яднаннем „Летапіс" кінастудыі „Беларусьфільм".

### ВЯСКОВЫЯ МУЗЫЧНЫЯ ШКОЛЫ

У вёсках Олтуш і Макраны Брэсцкай вобласці адкрыты філіялы Маларыцкай музычнай школы з класамі акардэона і баяна.

### „ТАБЛЕТКУ ПАД ЯЗЫК"

Гэта загаловак новай камедыі вядомага сучаснага беларускага драматурга Андрэя Макаёнка. Яго п'есай пачаў свой 27 тэатральны сезон Гродзенскі абласны тэатр.

### ВЫСТАЎКА А. ТКАЧОНКА

У зале Саюза мастакоў БССР адкрылася выстаўка твораў жывапісу А. Ткачонка, прысвечаная яго 50-годдзю і 30-годдзю творчай дзейнасці. Прыцягваюць увагу кампазіцыі і накіды, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне.

### ЯШЧЭ АДНА НОВАБУДОЎЛЯ

На паўночнай ускраіне Асіповіч разгарнулася панарама яшчэ аднай новабудоўлі Беларусі — завода аўтамабільных агрэгатаў. Гэта прадпрыемства будзе выпускаць разнастайныя аўтапрычэпы, дзесяткі вузлоў і дэталей для беларускіх аўтамабіляў. Штодзённыя заданні будаўнікі сістэматычна перавыконваюць.

### 20 ГАДОЎ ЗАВОДУ

Мазырскаму заводу меліярацыйных машын споўнілася 20 гадоў. Цяпер ён вырабляе 14 відаў меліярацыйнай тэхнікі і розныя запасныя часткі да яе. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### І КРАЁВАЯ ПАРТЫЙНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

У панядзелак і аўторак — 22 і 23 кастрычніка адбылася ў Варшаве І Краёвая партыйная канферэнцыя. Склікана яна згодна з пастановай VI З'езду партыі ў палове цыкла паміж з'ездамі. На канферэнцыі прысутнічала 2.000 дэлегатаў, выбраных на партыйных сходах. Канферэнцыя ацаніла дагэтуляшнюю рэалізацыю праграмы VI З'езду і сфармулявала задачы на бліжэйшыя два гады. Канферэнцыя мела рабочы характар. Працавалі тры органы канферэнцыі: камісія рэзалюцыі і прапаноў, мандатная камісія і сакратарыят канферэнцыі. Канферэнцыю адкрыў і даклад ад імя ЦК ПАРП прадставіў І сакратар ЦК Эдвард Герэк.

Шырэй аб канферэнцыі ў наступным нумары.

### ЯПОНСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў ПОЛЬШЧЫ

У Польшчы знаходзілася дэлегацыя японскага парламента. Яна падарожнічала па краіне і правяла афіцыяльныя сустрэчы з кіраўніцтвам Сейма. Праграма візіту і размоў дэлегацыі — гэта далейшае пашырэнне сувязі паміж ПНР і Японіяй.

### ВІЗІТ В. ШЭЛЯ Ў ПОЛЬШЧУ

Па запрашэнню міністра замежных спраў ПНР у Польшчы прабываў з афіцыяльным візітам міністр замежных спраў ФРГ Вальтэр Шэль. Ён правёў афіцыяльныя размовы з польскім міністрам замежных спраў і быў прыняты старшынёй Рады дзяржавы Генрыкам Яблонскім, прэм'ерам Пятром Ярашэвічам, а таксама І сакратаром ЦК ПАРП Эдвардам Геркам. Размовы датычыліся далейшай нармалізацыі і развіцця суадносін паміж ПНР і ФРГ.

### СТАРШЫНЯ РАДЫ ДЗЯРЖАВЫ ПНР ПАЕДЗЕ Ў ЧЭХАСЛАВАКІЮ

Па запрашэнню прэзідэнта Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі прыедзе ў Чэхаславакію старшыня Рады Дзяржавы ПНР Генрык Яблонскі.

### ЦУКАР, ЦУКАР...

Цукроўні нашай краіны выпрадуквалі ўжо больш як паўмільёна тон цукру. Найлепш працуюць гданьскія цукроўні. Яны з кожнай тоны буракоў выдабываюць 150 кг цукру.

### НОВЫ ГАТУНАК БУЛЬБЫ

Працаўнікі Інстытута бульбы ў Кашалінскім ваяводстве вывелі новы гатунак бульбы — вельмі ранні. Ён будзе даспяваць ужо ў пачатку чэрвеня.

### ПРАЦУЮЦЬ УЖО ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ

Ідзе падрыхтоўка да назначаных на 9 снежня выбараў у рады народовыя. Праверка спісаў выбаршчыкаў будзе адбывацца ад 4 да 18 лістапада. Зараз адбываюцца кансультацыйныя сустрэчы з выбаршчыкамі ў справе вызначэння кандыдатаў на будучых радных.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

На чарговым пасяджэнні Рада Міністраў ацаніла рэалізацыю нацыянальнага гаспадарчага плана за тры кварталы гэтага года. Было сцверджана, што план гэты быў рэалізаваны ва ўсіх асноўных галінах гаспадаркі. Рада Міністраў адзначыла, што ў чацвёртым квартале гэтага года галоўны націск трэба зрабіць на прадукцыю артыкулаў для патрэб рынку. (вл)

## ВАЯВОДСТВА

### У ГОНАР ПАРТКАНФЕРЭНЦЫІ

Калектывы беластоцкіх прадпрыемстваў сустрэлі І Краёвую партканферэнцыю дадатковай прадукцыяй, выкананнем абавязацельстваў, узятых на сябе ў гонар партканферэнцыі. А ўся беластоцкая моладзь, масава адгукнуўшыся на заклік Ваяводскай рады Федэрацыі сацыялістычных саюзаў польскай моладзі (ФСЗМП), выйшла ў нядзелю 21 красавіка да працы грамадскім чынам пад лозунгам „Моладзь заўсёды з партыяй". Будавалі дарогі, вядучыя да зборных гмінных школ, месцы адпачынку, спартыўныя аб'екты, упарадкавалі паркі і скверы, жыллёвыя раёны, школьныя і прыфабрычныя пляцы.

Праца моладзі грамадскім чынам была прадаўжэннем працы, якую пачалі 30 верасня члены партыі.

### МІНІСТР С. КАВАЛЬЧЫК У БЕЛАСТОКУ

На днях на Беласточчыне прабываў намеснік члена Палітбюро ЦК ПАРП міністр унутраных спраў С. Кавальчык. У будынку Ваяводскай міліцыі адбылася сустрэча заслужаных прадстаўнікоў міліцыі з міністрам. Тав. С. Кавальчык уручыў узнагароды, прызнаныя шэрагу прадстаўнікоў міліцыі ў сувязі з 29-ай гадавінай міліцыі і службы бяспекі.

### „ЗА ЗАСЛУГІ ДЛЯ АБАРОННАСЦІ КРАІНЫ"

Нядаўна адбылося ўрачыстае ўручэнне сярэбраных і залатых медаляў „За заслугі для абароннасці краіны" і вышэйшых афіцэрскіх званняў шматлікай групе афіцэраў рэзерву. На ўрачыстасці прысутнічалі члены экзекутывы і сакратары ВК ПАРП на чале з І сакратаром З. Куроўскім, кватэрмайстар Варшаўскай ваеннай акругі ген. брыг. Я. Сасніцкі, члены Прэзідыума ВРН на чале з старшынёй Прэзідыума ВРН З. Спрыхам, старшыня ВК ФАН С. Кудла, шэф Ваяводскага ваеннага штаба плк. З. Катоўскі, прэзас Акруговага праўлення ЗБоВіД плк. Я. Анацік. Узнагароды і намінацыі ўручаў ген. брыг. Я. Сасніцкі. Старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха падзякаваў афіцэрам рэзерву за дзейнасць на карысць грамадска-гаспадарчага развіцця Беласточчыны.

### ДЗЕНЬ СУВЯЗІСТА

4300 працаўнікоў пошты і тэлекамунікацыі Беласточчыны адзначылі сваё штогадовае свята. Сувязь за апошнія гады развівалася ў нашым ваяводстве вельмі дынамічна. Дзякуючы новым інвестыцыям у 1971—73 гадах аддадзены ў карыстанне аўтаматычныя міжгароднія спалучэнні Ольштын—Беласток і Беласток—Элк. Зроблены былі аўтаматычныя цэнтралі ў Лапах, Аўгустове і Высокамазавецку. Пашыраны цэнтралі ў Элку і Ломжы. Аўтаматычнае спалучэнне атрымала ўжо шэраг вёсак.

### ЮБІЛЕЙ ТЭАТРА ЛЯЛЕК

У сувязі з 20-годдзем Дзяржаўнага тэатра лялек у Беластоку адбыўся юбілейны прагляд лепшых пастановак тэатра. Святкаванне юбілею адбывалася пад пратэктаратам старшыні Прэзідыума ВРН З. Спрыхі. У юбілейных канцэртах выступілі лялькавыя тэатры з Варны (Балгарыя) і Каўнаса (ЛССР). (яч)




**Niedziela 28.X.**

7.30 Program dnia. 7.35 TV Kurs Rolniczy. 8.10 „Przypominamy, radzimy" 8.20 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.45 „Bieg po zdrowie". 9.00 TELERANEK. 10.20 „W starym kinie" — „King-Kong" — film arch. USA. 12.00 Dziennik. 12.15 Turniej kapel, instrumentalistów i śpiewaków ludowych — „Mielec 73". 13.15 „Przemiany". 13.45 Dla dzieci: Krakowski Teatr Baśni — J. Porazińska — „Ptak Cezariusza". 14.35 „Radar". 14.45 Losowanie Totolotka. 15.05 „Piosenka dla Ciebie". 15.55 „Aby człowiek zrozumiał człowieka" — rep. film. 16.30 „Tele—Echo". 17.30 „Kryteria". 17.45 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15. „Ognisty łuk" — film radz. odc. I („Wyzwolenie"). 21.50 PKF. 22.00 Magazyn sportowy. 22.30 „Stanisławski — show" — recital autorsko-aktorski.

**Poniedziałek 29.X.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Olsztyński. 18.10 „Oferty". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: L. Tołstoj — „Diabeł". 21.20 „Merkury 73" — publ. 21.55 Dziennik. 22.10 „Studio przebojów".

**Wtorek 30.X.**

9.00 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Jan Matejko". 10.00 „Adalen 31" — film fab. szwedzki („Robotnicze drogi"). 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Rodzina Durtolów" — film franc. odc. VII. 17.05 „Dolna Odra" — program publ. 17.30 Kronika Warszawy i Mazowsza. 17.50 Kompozycje hiszpańskie na harfę gra Urszula Mazurek. 18.05 TELEWIZJA MŁODYCH. 19.00 Telereklama. 19.05 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Adalen 31" — film fab. szwedzki („Robotnicze drogi"). 22.20 „Bez togi". 23.00 Dziennik. 23.15 Wiadomości sportowe.

**Środa 31.X.**

10.00 Film fabularny. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Wędrówki z moim latawcem". 17.05 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.55 „Spacerkiem po kinach". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Film fabularny. 21.10 Program publicystyczny. 21.45 FILM MUZYCZNY TVP: Premiera miesiąca — „Cztery temperamenty — Wiłkomirscy". 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe.

**Czwartek 1.XI.**

10.55 Program dnia. 11.00 „Jakie będzie jutro Wenecji" — film dok. wł. („Czas i ludzie"). 11.45 „Późna jesień" — film dok. węg. 12.00 POLSKI FILM DOKUMENTALNY: „Krystyna M". 12.45 Recital organowy Davida Pizarro (USA). 13.25 Klub Sześciu Kontynentów. 14.00 „Święto Zmarłych w twórczości ludowej" („Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza"). 14.35 Dla młodych widzów: „Srebrny Neptun" — film fab. czechosł. 15.35 Telereklama. 15.40 PKF. 15.50 Estrada Literacka: T. Nowak — „Psalmy" — Tryptyk". 16.20 „Ostatni liść" — film TVP. 16.45 „Polskiej pieśni część" — rep. film. z II Festiwalu Chórów Polonijnych w Koszalinie. 17.20 „Czas przeszły, czas teraźniejszy" — rep. 17.55 „Niczego mi nie żal" — program dok. poświęcony Edith Piaf. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Synowie i kochankowie" — film fab. ang.

**Piątek 2.XI.**

9.30 Film fabularny. 11.05 Dla szkół: (kl.VII) Wychowanie obywatelskie — „Wieś idzie z postępem". 12.00 Dla szkół: (kl. III) „Krakowskie legendy". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 15.20 Politechnika TV: Kurs przygotowawczy. Praca kontrolna. 15.55 Politechnika TV: Kurs przygotowawczy. Zadania z algebry. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.50 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.10 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.45 Telereklama. 18.50 Program publ. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Rozsiewane wiatrem" (Wędrówki śladami poetki Haliny Poświatowskiej). 21.00 „Panorama". 21.40 Teatr TV: A. Strindberg — „Śmiertelny taniec". 23.10 „Informacje, Towary, Propozycje". 23.30 Dziennik. 23.45 Wiadomości sportowe.

**Sobota 3.XI.**

8.30 „Ciężkie czasy dla gangsterów" — film fab. franc. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Jamochłony". 13.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.55 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 „Z kamerą wśród zwierząt". 17.10 TELEWIZJA MŁODYCH: St. Wyspiański — „Legenda". 18.15 „Wychowanie fizyczne receptą na zdrowie". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Teatr Rozrywki: N. Manzari — „Umarli nie płacą podatków". 21.35 Dziennik. 21.50 Wiadomości sportowe. 22.00 „Ciężkie czasy dla gangsterów" — film fab. franc.




**Piątek, 26 października**

8.30 Spektakl TV. 9.40 Szkoła szachowa. 13.05 Program dnia. 16.10 Świat socjalizmu. 16.40 Piosenka — 73. 17.35 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Mistrzostwa Europy w gimnastyce.

**Sobota, 27 października**

7.00 Program dnia. 9.10 Przegląd międzynarodowy. 9.25 Mozaika muzyczna. 10.15 Film fab. 14.00 Filmy animowane. 14.45 Film fab. 16.30 Film dokument. 19.00 Czas. 19.30 Mistrzostwa Europy w gimnastyce.

**Niedziela, 28 października**

7.00 Program dnia. 9.30 Tańczcie z nami. 10.00 Kiosk muzyczny. 13.00 Panorama międzynarodowa. 13.30 Filmy animowane. 14.00 Klub filmowy. 15.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Tbilisi) — CSKA. 16.45 Film dokument. 17.45 Panorama filmowa. 19.00 Czas. 19.30 TV film dokument. 20.30 TV Konkurs młodych wykonawców piosenki radzieckiej.

 

# Агульнапольскі злёт

Нядаўна Гайнаўка і Белавежа прымалі незвычайных гасцей. З'ехаліся сюды маладыя перадавікі лясной працы на свой другі краёвы злёт. Прыехала іх амаль 200 чалавек з розных куткоў краіны: Кракава, Познані, Зялёнай Гуры, Аполя, Шчэціна, Варшавы і іншых ваяводстваў.

Невыпадкова месцам сустрэчы маладых леснікоў стала Беластоцкая зямля, а асабліва Гайнаўшчына. Гэта тут у барацьбе нараджаўся прафсаюзны рух леснікоў. На Беластоцкай зямлі гісторыя запісала найвялікшыя забастоўкі леснікоў у міжваенны перыяд. Гады другой сусветнай вайны — гэта прыгожыя, гераічныя старонкі барацьбы з акупантам людзей Белавежскай пушчы.

Добра, што іменна сюды прыехалі маладыя. У час злёту знаёміліся яны не толькі з Белавежскай пушчай, яе багаццем і прыгажосцю, але і дасягненнямі Гайнаўшчыны, а асабліва з дрэваапрацоўчай прамысловасцю.



*Дэлегацыя ўдзельнікаў злёту склала вянок на магілах савецкіх салдат, загінуўшых за вызваленне Гайнаўскай зямлі.*

Маладыя перадавікі лясной працы падзяліліся на групы. У групах сустрэліся з ветэранамі і заслужанымі людзьмі, якія змагаліся за свабоду Беласточчыны. Іншыя дыскутавалі з прадстаўнікамі міністэрства і сваёй прафсаюзнай арганізацыі аб будучай іх працы і аб месцы маладых у лясных працах і прафесіях. Было шмат пытанняў, якія характарызаваліся маладзёжнай задзёрнасцю. З прыемнасцю хочацца адзначыць, што маладыя з іншых ваяводстваў вельмі цікавіліся нашай зямлёй і яе дасягненнямі.

У праграме злёту быў таксама конкурс на тэмы, звязаныя з 30-годдзем ПНР, 80-годдзем прафсаюзнай арганізацыі леснікоў і работнікаў драўніннай прамысловасці. Конкурс быў спалучаны з аглядам мастацкіх калектываў.

Удзельнікі злёту выязджалі з Белавежы радасныя. Спадабалася ім наша зямля, людзі, дасягненні. Спадабаўся касцёр у пушчы, на якім пякліся каўбаскі. З ад'язджаўшых аўтобусаў чуліся словы: да пабачэння, да наступнай гайнаўска-белавежскай сустрэчы.



*З каўбаскамі ля кастра.*

Тэкст і фота **А. Карпюка**

## АЎГАЛОСКІ

# Сябры --інтэрнацыяналісты

У другой палове гэтага года мінскае выдавецтва „Беларусь" выпусціла кніжку Алега Ясінскага „Сябры-інтэрнацыяналісты"*). Закранае яна беларуска-польскія палітычныя, эканамічныя і культурныя суадносіны.

У першай частцы кніжкі аўтар падкрэслівае, што на працягу ўсёй гісторыі суседнія народы былі звязаны непарыўнымі вузамі імкненняў да інтэрнацыянальнага збліжэння і сумеснай барацьбы з эксплуатататарамі. Пацвярджэннем гэтага былі супольныя змаганні ў Студзеньскім паўстанні, рэвалюцыі 1905 года, Вялікім Кастрычніку, міжваенным падполлі і ў II сусветнай вайне. Пасля вызвалення развіццё дружалюбных суадносін было замацавана падпісаннем Дагавора паміж СССР і ПНР ад 21.IV. 1945 г. Коратка характарызуецца ў кнізе супрацоўніцтва на працягу апошніх амаль трыццаці гадоў.

Дзеячоў грамадска-палітычных арганізацый зацікавіць другая частка: „Палітычнае супрацоўніцтва Беларускай ССР і Польскай Народнай Рэспублікі — яркае праяўленне інтэрнацыяналізму беларускіх і польскіх працоўных", у якой паказаны формы супрацоўніцтва — сустрэчы дзеячоў КПСС і ПАРП, канферэнцыі, прыгранічны абмен вопытам партыйнай работы паміж Гродзенскім і Беластоцкім, Мінскім і Варшаўскім, Люблінскім і Брэсцкім камітэтамі партыі, прафсаюзаў і маладзёжных арганізацый.

Істотнай часткай кніжкі з'яўляецца раздзел „Інтэрнацыяналізм у эканамічным супрацоўніцтве БССР і ПНР". Абумоўлена гэта супрацоўніцтва спецыфікай развіцця абедзвюх краін і спецыялізацыяй у міжнародным падзеле працы. Аўтар падкрэслівае, што беларускі аўтамабільны завод, з'яўляючыся адзіным прадпрыемствам па выпуску вялікагрузавых аўтамашын, пастаўляе таксама ў нашу краіну магутныя аўтасамазвалы, станкабудаўнічыя заводы ў Мінску, Оршы, Віцебску — буйнагабарытныя станкі (у 1971 г. — больш чым 20 штук), заводы аўтаматычных ліній у Мінску, сельскагаспадарчых машын у Гомелі, трактарны завод у Мінску і многа іншых забяспечваюць патрэбы Польшчы на ўзаемна выгадных умовах. Ад 1970 г. Беларусь масава экспартуе калійныя солі, у тым ліку ў ПНР, сяляне якой высока ацэньваюць іх якасць (у першым паўгоддзі 1972 г. яны атрымалі 890 тыс. тон гэтых угнаенняў). Праз гарады Рось—Беласток спалучаны энергасістэмы абедзвюх краін, у выніку чаго Польшча атрымала ў апошнім дзесяцігоддзі 1,5 мільярда кілаватгадзін электраэнергіі. Экспартуюцца ў ПНР беларускія электрарухавікі, электроннавылічальныя машыны, кінаўстаноўкі, помпы, халадзільнікі, радыёпрыёмнікі, падшыпнікі, нафта, фанера, ільновалакно. Устаноўлены шматлікія кааператыўныя сувязі.

**(Працяг на стар. 6)**

## ЛІСТ З Задрыпанкі

# Цабернетыка

— Як на свет нарадзілася! — усклікнула Гапка, выкупаўшыся ў цабэрку, і я ўспомніў сваю ванную адысею, калі ідучы з духам часу (гігіенізацыя вёскі!), як той зацюканы грыбаўскі апостал, пагнаўся ў Беласток за ваннаю. Хацеў пачаць у Задрыпанцы новую эру, аднак, як памятаюць старэйшыя чытачы, мае добрыя намеры не збыліся: ванны я не здабыў. І дагэтуль карыстаемся дзедавым цабэркам, які я ў час прыплыву грамадзянскай свядомасці, амаль ахвяраваў белавежскаму музею. Прыпыніла Гапка:

— Раней дастань мне ванну, — заявіла, — тады і распараджайся дзедавай спадчынай.

Мела рацыю. Тым больш, што і на музеі (ходзяць чуткі) павіс цяжкі замок абыякавасці. Значыць, грэшнаму целу засталася пэўная выгада.

Так у жыцці часта бывае: гонішся за спакуслівым прывідам, і трапляеш у цабэрак. Добра, калі пасля такой купелі, настрой узнімаецца, як у Гапкі, але бывае і наадварот: цабэрак пераўтвараецца ў ліпкую баюру, на якой па тваіх узнёслых пачуццях застаюцца толькі бурбалкі.

У такі цабэрак трапіў я сёлета, калі, выкарыстоўваючы передышку паміж сенакосам і жнівом, задумаў паставіць новую печ. Да старой пажарнікі чапляліся, штрафам страшылі.

Купіў кафлю, згадзіў пячніка. Мігам знікла цагляная старэча, пачалі вырысоўвацца ясныя контуры кафлёвай будучыні. І раптам з'явілася шэрая рэчаіснасць: няма дзверцаў, няма шыбраў, няма вінкеляў: ні ў мясцовай краме, ні ў павятовых магазінах, ні ў беластоцкіх патэнтатаў. Шчасце, сусед да сына ў Варшаву ехаў, сёе-тое прывёз, і мы маглі прадоўжыць спыненую радасць.

У цабэрак трапіў я на гары. Куды толькі не стукаў, нідзе падвойных дзверцаў камінoвых не дастаў. А яны ў коміне мус быць. Такі загад. Дзеля выгады камінара. Ён цяпер не будзе выконваць сваю прафесію, акірачыўшы стромкую страху. Прыдзе ў белых рукавічках, адчыніць на гары каміновыя дзверцы і праз іх упусціць у комін сваю бомбу з вожыкам.

Я не супраць палегчання долі камінараў. Чуеце? Будзеце маімі сведкамі. Мая кафлёвая будучыня хісткая. Павіс над ёю Дамоклаў меч: я пабудаваў комін без законных дзверцаў.

Мог бы яшчэ я расказаць вам аб малярскім цабэрку, які мне сніўся з блакітнай фарбаю, калі я, адклікаючыся на заклік Штаба дажынкавага парадкавання, гарадзіў сваю сялібу новым плотам, і потым не паспеў яго памаляваць (у гээсе не было фарбы), але вы маглі б сказаць, чапляюся дробязей. Дык не буду.

На вёску магутнай сцяной наступае механізацыя. Для вёскі ў канструктарскіх бюро сушаць галовы адборныя кагорты інжынераў. З думкай аб вёсцы родзяцца варыянты не толькі „Бізонаў" і „Урсусаў", але таксама „Фіятаў" і „Гаўронаў". Куды ж ты, чалавеча, прэшся з сваім цабэркам?

Мае неданошаныя думкі адплылі разам з парам, які пакружыўшы над цабэркам, з якога выйшла Гапка, асядаў на белізне нашай новай кафлёвай печы. Мне здалося, Гапка адгадала мой духовы стан, у яе вачах убачыў я насмешлівае „Эх ты, задрыпанскі цабэрнетык", і мне стала сорамна за праяўленую слабасць.

**Ваш Даніла**

## Ці ведаеце што...

...лугі і пасбішчы на Беласточчыне займаюць 31,4% усіх зямельных угоддзяў.

...сельскагаспадарчыя гурткі Беласточчыны прадалі дзяржаве ў мінулым годзе 10 973 тоны збожжа і 2 112 тон мяса.

...найбольшы даход у Беластоцкім ваяводстве атрымалі сельгасгурткі: у Крынках (717 тысяч злотых), Паўднёвым Востраве (514 тысяч злотых), Юшкавым Грудзе (200 тысяч злотых) і Заблудаве (159 тысяч злотых). (ця)

# Школьны гурток ЗМС

Да аднаго з найлепшых гурткоў ЗМС залічаецца гурток у Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі імя Б. Тарашкевіча ў Бельску. Налічваецца там 238 членаў. Старшынёю яго з'яўляецца Галіна Трашчотка. ЗМС-аўцы гэтай школы апякуюцца могілкамі савецкіх салдат, загінуўшых падчас вызвалення Бельшчыны, удзельнічаюць у грамадскіх чынах, арганізавалі навукова-папулярную сесію з нагоды „Года польскай навукі". Пры школе існуе вячэрняя школа актыву ЗМС і гурток маладых палітыкаў.

Павятовае праўленне ЗМС на чале з Паўлам Апалінскім задаволена дзейнасцю гэтага гуртка. Школьнікі аказваюць вялікую дапамогу ў працы павятовага праўлення ЗМС. Варта ў гэтым месцы сказаць і аб тым, што старшыня гуртка Галіна Трашчотка з'яўляецца членам павятовага праўлення ЗМС і сваю грамадскую функцыю выконвае вельмі добра. (мх)

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ



Браніслаў Цірук ужо 19 год працуе прадаўшчыком у кіёску „Руху" ў Крынках Сакольскага павету. Пачынаў працу ў першым і адзіным тады кіёску „Руху" ў Крынках. Кіёск Браніслава Цірука добра забяспечаны таварамі. Штомесяц прадае ён іх на 50 тысяч злотых. Найбольш газет, часопісаў (у тым ліку 10 экземпляраў „Нівы"), касметычных вырабаў, кніжак, дзіцячых цацак, сшыткаў і пісьмовых прыладаў. Пакупнікоў многа, паколькі кіёск знаходзіцца ў цэнтры Крынак.

За добрую шматгадовую працу Браніслаў Цірук быў узнагароджаны дыпломамі.

Тэкст і фота **Я. Ц.**



 

 

(Працяг са стар. 1)




вобразам не пакiдала мяне ў пачатковай школе i асаблiва ўзмоцнiлася ў часе вучобы ў гiмназii. А самым блiзкiм маiм прыяцелем i выхавальцам быў мой бацька — чалавек глыбокiх пачуццяў i непахiсных высокiх маральных якасцей. Ён патрапiў па-свойму глядзець на свет i ўсюды бачыць прыгажосць. Яго ўжо даўно няма, але вобраз яго застаўся для мяне назаўсёды неўмiручым i светлым.

Пры поўным адабрэннi бацькi, хоць у хату заглядала нястача i на матэрыяльную дапамогу сям'i не было што разлiчваць, паступiў Ю. Харытон у Акадэмiю мастацтваў у Кракаве. Займаўся рысункам у У. Яроцкага i К. Сiхульскага, жывапiсам — у С. Фiлiпкевiча, пейзажам — у С. Камоцкага, а скульптурай — у славутага К. Дунiкоўскага. У студэнцкай кiшэнi рэдка калi заводзiўся грош, на ўтрыманне трэба было зарабляць працай, якая толькi траплялася пад руку.

У 1937 г. Ю. Харытон закончыў Кракаўскую акадэмiю i заняўся партрэтам. Але стабiльнасць наступiла пад восень 1939 г., калi ён стаў працаваць загадчыкам аддзела мастацтва на тры раёны: Высокае, Кобрын i Пружаны Брэсцкай вобласцi i ўступiў у Саюз мастакоў Беларускай ССР. Працягвалася гэта нядоўга, неўзабаве насталi жудасныя днi гiтлераўскай акупацыi, трэба было зрачыся мастацтва i думаць толькi пра тое, каб пражыць, не страцiўшы чалавечай годнасцi. Не заняўся ён жывапiсам i ў першыя пасляваенныя гады, працаваў у ваенкамаце, намеснiкам кiраўнiка кафлярнi ў Нурцы, займаўся фатаграфiяй у сваiм атэлье. У 1950 г. паступiў завочна ў архiтэктурную школу Гаеўскага пры Варшаўскiм палiтэхнiчным iнстытуце, а яго дыпломная праца была ўзнагароджана. Займаўся таксама канструяваннем i вынаходнiцтвам, чатыры яго працы былi апатэнтаваны.

I ўсё ж аказалася, што фатаграфаванне, архiтэктура i нават канструяванне — гэта было толькi несвядомай, цяжкай, але ўсебаковай падрыхтоўкай да поўнага пераходу Ю. Харытона да жывапiсу i графiкi. Ужо недзе ад 1960 г. ён не разлучаецца з мальбертам.

У 1964 г. мастак на сваёй першай экспазiцыi ў Сямяцiчах выставiў 140 прац. Поспех выстаўкi быў велiзарны. Яе наведала каля 11 тысяч чалавек. Натоўпам iшлi на яе жыхары Сямяцiч, моладзь са школ. Сяляне з далейшых вёсак спецыяльна прыязджалi фурамi, каб палюбавацца роднымi краявiдамi i знаёмымi постацямi, з любасцю прадстаўленымi мастаком у яго працах. У тым жа годзе Акруговы музей у Беластоку выстаўляе яго 80 прац. Экспазiцыю прыхiльна сустрэлi беластачане, i яна аб'ехала ўсё ваяводства, выклiкаючы ўсюды жывое зацiкаўленне. Варшаўскi Iнстытут мартыралогii яўрэяў набывае ў Ю. Харытона 185 эскiзаў з цыкла „Пакуты i гiбель яўрэйскага насельнiцтва".

Мастак уступае ў агульнапольскае аб'яднанне „Захэнта" i кожны год праводзiць iндывiдуальныя выстаўкi сваiх твораў або ўдзельнiчае ў групавых экспазiцыях. Некалькi разоў працы Ю. Харытона экспанавалiся ў СССР, Чэхаславакii, ГДР i iншых сацыялiстычных краiнах. Яго карцiны i эскiзы набывае Рада Дзяржавы Польшчы, Рада Мiнiстраў, Нацыянальны музей.

У 1969 г. карцiны i графiка Ю. Харытона выстаўляюцца ў Англii i Iспанii. Яны карысталiся поспехам i на выстаўцы ў 1972 г. у Канадзе. Арганiзатары гэтай экспазiцыi папрасiлi, каб ён даслаў большую колькасць сваiх прац. I ў гэтым годзе мастак накiраваў у Канаду звыш 200 карцiн маслам i графiкi.

Аб сваёй творчасцi мастак кажа:

— Просты працоўны чалавек, пабеленая сцяна вясковай хаты i блiжэйшае наваколле сяла — гэта самыя блiзкiя майму сэрцу тэмы. Я закаханы ў сямяцiцкi пейзаж, i прысвяцiў яму звыш 200 карцiн i каля 100 прац па графiцы. Пэўна, мае мастацтва маркотнае, сумнае. У iм наведвальнiкi чытаюць мастыў беспаваротнага прамiнання. Што ж, я ўвесь час усведамляю сабе, што мушу калiсьцi адысцi з жыцця i свету. Сумная i непазбежная неабходнасць. Таму iмкнуся пакiнуць у сваiх працах свет такiм, якiм я асабiста яго бачу. I яшчэ. Я пераканаы, ва ўсiх людзей аднолькавы боль, падобны жах перад смерцю i такая самая прага прыгажосцi.

**Мiкалай Гайдук**
**Фот Я. Цялушэцкага**

## Пянькоўскi клуб

Мала ў якой вёсцы ёсць такi вялiкi клуб, як у Пяньках. У яго вялiкай зале змясцiлася б напэўна больш як 80 сем'яў, гэта значыць столькi людзей, колькi жыве ў вёсцы i на пянькоўскiх калёнiях. Добра ў iм дэманстраваць фiльмы, арганiзоўваць танцавальныя вечарыны i рознага роду сходы. Ёсць тут таксама немалая сцэна, так патрэбная мастацкiм калектывам.

Спецыяльная зала ёсць для тэлевiзiйных перадач, на якiя заўсёды прыходзяць iх любiцелi, у асноўным маладыя. А ўжо ў 19.30 гадзiн збiраецца шмат старэйшага пакалення, каб паглядзець „дзённiк".

Насупраць гэтай залы знаходзiцца яшчэ адзiн пакой, у якiм ёсць такiя ж тавары, як у звычайным кiёску, ды апрача таго аранжада i часам пiва.

Адным словам, у Пяньках, як рэдка дзе, ёсць вельмi зручны i прасторны клуб селянiна, якiм апякуецца мiхалоўскi ГС. (мх)




## СВIНАПАС З МАШЫНАЙ

Яну Трусевiчу з Казiмiрава (Беластоцкi павет) цяпер 52 гады. У яго чацвёра дзяцей, з якiх самае старэйшае — 12-гадовы сын Юрка — ходзiць у шосты клас пачатковай школы, а наймалодшае — паўгадовы Ярэк яшчэ спiць у моднай дзiцячай калясцы на высокiх колах. У хаце — не вельмi прасторнай i ўжо пастарэлай — поўны камплект сучаснага абсталявання: тэлевiзар, радыёпрыёмнiк, халадзiльнiк, фабрычная мэбля, спiральная машына. Усё гэта каштавала шмат грошай.

— З чаго вы чэрпаеце найбольшыя даходы? — пытаю ў гаспадара.

— З чаго? — гаворыць ён. — Я — свiнапас, — смяецца i зараз дадае: — Так, не здзiўляйцеся, ад самых малодшых гадоў пасу свiней, яшчэ бацькоўскiх пас, i цяпер я iх пасу, але ўжо ўласных, па 40—50 штук у год.

Пасля я пераканаўся, што Ян Трусевiч не жартуе. Мае ён звыш 10 га ворнай зямлi, кантрактуе збожжа i бульбу. Для прыкладу, у мiнулым годзе прадаў дзяржаве больш пяцi тон кантрактаванага жыта i амаль 12 тон бульбы. У гэтым годзе — таксама. Аднак асноўны напрамак яго гаспадаркi — гэта свiнагадоўля.

— Я выводжу пародзiстыя свiнаматкi i гадаўляныя лёшкi. Гадую таксама кнуроў. Гэта найлепш аплоцiцца, бо да асноўнай цаны за жывую вагу на скупачным пункце дабаўляюць яшчэ спецыяльную гадаўляную прэмiю, якая часам дасягае да 2000 зл. ад штукi. Вось заўтра прыедуць забiраць. Здаю 11 штук гадаўляных лёшак, а праз два тыднi — 7 аднагадовых кнуроў.

— А ты менш хвалiся сваiм прыбыткам! — уклiнаецца жонка. — Лепш скажы, колькi трэба працы, каб выкармiць гэтую ненажорлiвую чараду свiней, колькi вёдраў пацягаць, колькi саломы, колькi гною вывалачы. Вось iдзем, — запрашае гаспадыня, — самi пабачыце.



*Ян Трусевiч з вёскi Казiмiрава спецыялiзуецца ў свiнагадоўлi.*

На панадворку вiтае нас назойлiвы квiк свiней.

— Чуеце, ужо есцi хочуць, а толькi што кармiла.

— А чым вы iх кормiце?

— Сеем спецыяльную мяшанку, жыта з аўсом, якую пасля мелем на восыпку, для парасят купляем прамысловую кармавую мяшанку „Т", з мiхалоўскай малачарнi бяром каля чатырох тысяч лiтраў сыроваткi ў месяц, бо гэта добры корм для свiней, але часта яго не хапае i прыходзiцца з Мiхалова вяртацца дамоў з пустымi бочкамi.

На панадворку ў Яна Трусевiча яшчэ не вiдаць подыху сучаснасцi. Хлеў i клуня ў традыцыйным вясковым стылi. Толькi аўтамабiль „Жук", якi прытулiўся пад дахам шопы, нагадвае аб здзяйсняючыхся тут пераменах.

— Аўтамабiль, а яшчэ такi як гэты „Жук", рэч вельмi прыдатная ў гаспадарцы, — з гонарам сцвярджае казiмiраўскi свiнапас. — Я маю двое коней, бо на нашай цяжкай, сапаватай зямлi адзiн „кары" нават плуга не пацягне, але з машынай цяпер ужо не разлучыўся б. Дзе толькi трэба штo купiць цi прадаць — сеў i паехаў. Праз некалькi мiнут я ў Мiхалове, за няцэлую гадзiну — у Беластоку. Зручна i без чужой ласкi. Нават на вяселлi часта мяне запрашаюць.

— А не лепш было б вам за гэтыя грошы купiць сабе трактар?

— Чаму ж не, толькi дзе яго купiць? — адказвае гаспадар. — Пакуль што выручаюся гуртакоўскiмi трактарамi. А грошы збiраю на вялiкую будову. Перш за ўсё патрэбна мне новая, па-сучаснаму абсталяваная хлеўня. У гэтым старым будынку ўжо не хапае месца.

Гэтаму гаспадару лёс не шкадаваў самых цяжкiх выпрабаванняў. У 10 год жыцця застаўся ён сiратою. Яго бацьку замучылi гiтлераўцы, бо быў савецкiм актывiстам, дырэктарам крухмальнi ў Геранiмаве. Ад 12 год жыцця ён ужо гаспадарыў самастойна. Ведае, што такое голад i холад. А пазней, ужо пасля вайны, двойчы яго маёмасць знiшчыў агонь. Але ён не падаваўся.

— Усё тое, што тут бачыце, — сказаў на развiтанне, — з майго поту i з працы маёй сям'i. Часам i добрыя людзi дапамаглi, не пакiнулi ў найгоршай бядзе.

**Вiктар Рудчык**
фота аўтара



*Самы малодшы член сям'i Трусевiчаў, паўгадовы Ярэк, са сваёй мамай Яўгенiяй.*

## Беларуская лiтаратура

АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКI

## Нашанiўская пара

### ЯДВIГIН Ш. ЧАСТКА XIV

**Гумарыстычныя творы.** Катэгорыя гумарыстычных твораў займае ў творчасцi Ядвiгiна Ш. бадай найбольшую пазiцыю. Гумар быў, несумненна, стыхiяй Ядвiгiна Ш., праяўляўся ён у многiх творах пiсьменнiка, напiсаных у розныя перыяды жыцця. Да найважнейшых гумарыстычных i сатырычных твораў пiсьменнiка трэба аднесцi навелы: „Пазыка", „З маленькiм бiлецiкам", „Важная фiга", „Суд", „Вучоны бык", „Заморскi звер", „При исполнении служебных обязанностей".

Усе гэтыя апавяданнi базуюцца на вясковай рэчаiснасцi. Галоўнымi iх героямi з'яўляюцца сяляне. Аднак у многiх з iх побач з сялянамi выступаюць жыхары горада: Мяшчане, судовыя чыноўнiкi, прадстаўнiкi палiцыi.

Не ўсе гумарыстычныя творы Ядвiгiна Ш. маюць аднолькавую лiтаратурную вартасць. Несумненна, маюць рацыю тыя лiтаратурныя крытыкi, якiя гавораць, што некаторыя апавяданнi Ядвiгiна Ш. гэта творы, якiя больш маюць супольнага з анекдотам, чым з рэчаiснасцю. I сапраўды, такiя апавяданнi пiсьменнiка, як „Вучоны бык", „Заморскi звер" i многiя iншыя, звязаны са шляхецкiм спосабам гумарыстычнай трактоўкi селянiна. Шляхецкае асяроддзе ў Беларусi культывавала анекдоты, якiя праднамерана панiжалi разумовыя здольнасцi селянiна. Вiдавочна, Ядвiгiн Ш. знаходзiўся пад уплывам гэтай атмасферы. Атмасфера гэта акрэслiла аднак не толькi некаторыя апавяданнi пiсьменнiка. Многiя яго навелы маюць пад сабой больш рэальны грунт.

Пяройдзем да характарыстычнага некаторых гумарыстычных твораў пiсьменнiка. На пачатку зоймемся навеламi непраўдападобнымi, гэта значыць тымi, якiя прадстаўляюць такiя падзеi, якiя, бадай, нiколi не здарылiся ў жыццi. Да гэтай катэгорыi трэба аднесцi навелы: „Вучоны бык", „Заморскi звер". У творы „Вучоны бык" пiсьменнiк паказвае селянiна Язэпа, якi вядзе на рынак прадаваць бычка-трэцячка. Сустрэтыя селянiнам салдаты пераконваюць яго ў тым, што няма сэнсу прадаваць бычка i штo лепш аддаць яго на навуку. Прайшоў год, селянiн зноў iдзе ў горад. Сустракае тых самых салдат. Салдаты кiруюць селянiна да вядомага мясцовага пана Быкава, гаворачы, што гэты пан вырас з яго бычка-трэцячка. Селянiн паверыў, пайшоў да пана i пачаў яму закiдаць вяроўку на шыю. Збеглiся людзi i ледзьве абаранiлi пана.

У навеле „Заморскi звер" наiўныя сяляне паверылi гарадскому ашуканцу, што мясцовы пан гэта заморскi звер. Сяляне пачынаюць совадь пану пугамi пад нос i вельмi здзiўлены, што „Заморскi звер" пачынае ругаца па-чалавечы.

У трэцiм апавяданнi гэтага цыкла „Пазыка" паказаны дабрадушны селянiн, якi едзе ў пазычаных ботах у горад. Гарадскiя жулiкi разыгрываюць дзядзьку вельмi проста. Пачынаюць бiцца. Дабрадушны дзядзька не можа прайсцi каля iх абыякава. Пытае, што з'яўляецца прычынай iх бойкi, i са здзiўленнем даведваецца, што прычынай канфлiкту з'яўляецца якраз ён. Адзiн з жулiкаў даказвае, што ў дзядзькi на назе шэсць пальцаў. Дзядзька здымае адзiн, а пасля i другi бот, каб паказаць сваe нармальныя ногi. Калi агледзеўся, убачыў, што няма нi жулiкаў, нi ботаў.

Усе прадстаўленыя тут апавяданнi маюць супольную рысу. Праяўляецца яна ў тым, што ва ўсiх гэтых творах выступае постаць наiўнага селянiна i постаць хiтраца, прайдохi. Канфлiкт памiж чалавечай наiўнасцю i чалавечай хiтрасцю якраз i з'яўляецца сутнасцю гумару, выступаючага ў гэтых творах. Наiўнасць становiцца тут заўсёды ахвярай, хiтрасць — пераможцам.

Падобны тып канфлiкту выступае таксама ў навеле „З маленькiм бiлецiкам". Аднак у адрозненнi ад папярэднiх твораў у гэтай навеле апiсаны больш верагодны факт. У гэтай навеле паказаны селянiн, якi першы раз едзе ў горад. Гарадскi шутнiк, якi едзе ў цягнiку разам з селянiнам, гаворыць яму, што ў сувязi з тым, што ў яго маленькi бiлецiк, павiнен ён сядзець не ў купэ, але ў вагонным туалеце. Селянiн iдзе ў туалет, сядзiць там увесь час i адчувае вялiкую ўдзячнасць чалавеку, якi паказаў яму ўласцiвае месца. Значыць, i тут выступае канфлiкт памiж наiўнасцю i хiтрасцю. Аднак трэба сказаць, што здарэнне, апiсанае ў навеле, сапраўды магло здарыцца ў жыццi.

У суме аднак усе прадстаўленыя апавяданнi маюць нязначныя сувязi з жыццём. У гэтым якраз i заключаецца слабасць гумарыстычных твораў пiсьменнiка. Галоўны парадокс гумарыстычных апавяданняў Ядвiгiна Ш. заключаецца ў тым, што высмейваў ён сялянскую наiўнасць наiўнымi спосабамi.

Прадстаўлены тут гумарыстычныя апавяданнi непераканаўчыя i па сутнасцi не смешныя. Аднак у спадчыне пiсьменнiка знаходзiм некалькi гумарыстычных твораў, якiя маюць глыбейшы сэнс. Сярод iх знаходзiцца апавяданне, якое мае выразна сатырычны характар.



 

(Працяг са стар. 1)




ядноўваў у сваіх радах передавую рабочую і сялянскую моладзь усіх нацыянальнасцей у Заходняй Беларусі.

Рэвалюцыйны і нацыянальна - вызваленчы рух у Заходняй Беларусі перажыў у сваім развіцці некалькі этапаў. Кожны з іх адрозніваўся своеасаблівасцю форм і метадаў барацьбы, якія вынікалі з своеасаблівасці эканамічных і сацыяльна-палітычных абставін.

Першы перыяд ахопліваў 1921-1924 г.г. — гады пасляваеннага рэвалюцыйнага ўздыму і пачатку адноснай стабілізацыі капіталізму. Спецыфічнай своеасаблівасцю рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху гэтых гадоў быў рух партызанскі.

Другі перыяд ахопліваў 1925 — першую палову 1929 г., г.зн. у асноўным гады адноснай стабілізацыі капіталізму. Асаблівасцю гэтага перыяду была перавага рэвалюцыйна-дэмакратычных форм барацьбы, шырокае спалучэнне легальнай і падпольнай работы кампартыі, удзел у руху масавых легальных арганізацый працоўных — Беларускай сялянска-рабочай грамады, Таварыства беларускай школы і інш. Пры тым, калі першыя гады гэтага перыяду характарызаваліся ўздымам рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху, дык апошнія — адносным яго абніжэннем.

Трэці перыяд уключае другую палову 1929 г. і канчаецца ў 1933 годзе, г. зн. супадае ў часе з сусветным эканамічным крызісам 1929 — 1933 гадоў. У Заходняй Беларусі гэтыя гады характарызаваліся новым уздымам рэвалюцыйнай барацьбы рабочага класа і сялян, абвастрэннем яе форм і метадаў.

Апошні, чацверты перыяд ахопліваў 1934-1939 гады. Для капіталістычнага свету гэта быў перыяд гаспадарчай дэпрэсіі, новага эканамічнага крызісу і падрыхтоўкі другой сусветнай вайны. Гэтыя гады характарызаваліся ўзмацненнем барацьбы кампартыі за ўмацаванне адзінства рабочага класа і ўтварэнне антыфашысцкага народнага фронту.

У ходзе рэвалюцыйнай барацьбы выраслі кіраўнічыя кадры КПЗБ і КСМЗБ. Найбольш віднымі кіруючымі дзеячамі КПЗБ і рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі былі: палітычны сакратар ЦК КПЗБ і член Палітбюро ЦК КПП І. К. Лагіновіч („Павел Корчык"), адзін з арганізатараў КПЗБ, член Палітбюро ЦК КПП — Станіслаў Мертэнс („Стэфан Скульскі"), член бюро ЦК КПЗБ А. Славінскі („Адам"). У склад кіруючых дзеячоў КПЗБ уваходзілі члены бюро ЦК КПЗБ: Л. Аронштам („Артур"), М. Блінчыкаў („Якаўлеў"), Н. С. Арэхва („Пётр"), С. Міллер („Шлёмка"), А. Канчэўскі („Владак"), Е. Шоламаў („Глебаў"), Ф. Пірышко („Болек"); члены ЦК КПЗБ: І. Сяменнікаў („Паўлаў"), А. Розэншайн („Роберт"), Л. Шайкоўскі („Лейзар"), Р. Вольф („Елена"), Ф. Цыгельніцкая, Э. Арлоўская і інш. У склад кіруючых дзеячоў КСМЗБ уваходзілі: В. Харужая („Вера"), А. Альшэўскі („Юрка"), Н. Маслоўскі („Марцін"), Н. Дворнікаў („Герасім"), А. Федасюк, А. Андрэюк, С. Анісаў, якія ў розныя часы былі сакратарамі ЦК КСМЗБ.

Барацьба працоўных Заходняй Беларусі супраць прыгнёту буржуазіі і памешчыкаў за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне прадстаўляе сабою яркую старонку ў гісторыі беларускага народу.

КПЗБ была састаўной часткай кампартыі Польшчы, так як і рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі быў састаўной часткай рэвалюцыйнага руху ў Польшчы. На працягу 15-ці гадоў свайго існавання КПЗБ ішла ў авангардзе барацьбы працоўных Заходняй Беларусі, яна выхоўвала рабочых, сялян, працоўную інтэлігенцыю і моладзь у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму і салідарнасці з працоўнымі Польшчы і Заходняй Украіны. У радах КПЗБ змагаліся за агульную справу сацыялізму беларусы, палякі, яўрэі, украінцы, літоўцы. КПЗБ налічвала звыш 7 тысяч членаў партыі. Амаль палова з іх знаходзілася ў турмах. Але і там яны былі арганізаваны, мелі свае турэмныя камітэты і выдавалі нават падпольныя рукапісныя газеткі.

За гады сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці КПЗБ прайшла слаўны, адзначаны вялікімі ахвярамі шлях барацьбы. Члены КПЗБ у агні класавых баёў паказалі сябе стойкімі, адданымі барацьбітамі за шчасце працоўных. Шмат іх загінула на дэманстрацыях, у часе допытаў, у турмах. Іх імёны навечна ўпісаны ў летапіс рэвалюцыйнай барацьбы працоўных.

У 1938 годзе на аснове беспадстаўнага абвінавачання Выканаўчы камітэт Камінтэрна прыняў рашэнне аб роспуску Камуністычнай партыі Польшчы і яе састаўных частак — КПЗБ і КПЗУ. Гэтае абвінавачанне было знята ў 1956 годзе.

Пасля роспуску КПЗБ як партыя не існавала, але яе члены засталіся камуністамі. На фабрыках, у вёсках, у арганізацыях працоўных яны вялі агітацыю супраць фашызму, дэмаскавалі гітлераўскіх агрэсараў, выступалі ў абарону СССР. У гады вайны прымалі актыўны ўдзел у партызанскім руху, служылі ў радах Савецкай Арміі і Людовага Войска Польскага. Многія з іх загінулі ў гэтай барацьбе.

КПЗБ-оўцы, якія апынуліся на тэрыторыі Народнай Польшчы, актыўна ўдзельнічалі ў стварэнні і замацоўванні народнай улады, у барацьбе з контррэвалюцыйным бандыцкім падполлем і прымаюць актыўны ўдзел у будове сацыялізму ў Народнай Польшчы.

**Уладзімір Станкевіч**



**Рэвалюцыйныя традыцыі роднай зямлі з'яўляюцца складовай часткай сацыялістычнага выхавання. На Беласточчыне ў раёне дзейнасці КПЗБ значная ўвага ўдзяляецца вывучэнню гісторыі гэтай партыі. Матэрыялы, прысвечаныя змаганню КПЗБ, экспануюцца ў музеях рэвалюцыйнага руху ў Беластоку і Гайнаўцы, а таксама ў ізбах памяці ў Райску, Гарадку, Гаркавічах і Бельску. Апошняя змяшчаецца ў будынку беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча і з'яўляецца своеасаблівым кабінетам гісторыі роднай зямлі (на здымку).**

**Фота А. Карпюка.**

(Працяг са стар. 3)

## Сябры-інтэрнацыяналісты

У сваю чаргу Народная Польшча пастаўляе ў Беларусь комплекснае абсталяванне заводаў — Гомельскага хімічнага, Брэсцкага электралямпавага, Бабруйскага драўніннавалакністых пліт, Нясвіжскага льнокастрычных пліт, Асіповіцкай кардоннай фабрыкі, цукровых у Жабінцы і Слуцку, а таксама судны, чыгуначны рухомы склад, фармацэўтычныя і трыкатажныя вырабы, скураны абутак, мэблю, фарбы. Усе гэтыя тавары заваявалі прызнанне насельніцтва, а тым самым трывалы рынак. Шкада, што аўтар не падае дакладных лікаў і вартасці тавараабмену.

У апошняй частцы кніжкі „Умацаванне дружбы паміж беларускім і польскім народамі на шляхах культурнага супрацоўніцтва" характарызуецца перыяд 1965—1971 гадоў. Інстытуты БССР наведала звыш 200 польскіх вучоных, а інстытуты ПНР — 70 беларускіх вучоных, у тым ліку былі выкладчыкі кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, з дапамогі якіх скарысталі слухачы Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку.

Віднае месца займала літаратурнае супрацоўніцтва. У 1946—1970 гадах выдадзена ў перакладзе на беларускую мову 39 польскіх кніг, агульным тыражом 238 тыс. экземпляраў. Шматлікія грамадзяне БССР чытаюць польскія кнігі ў арыгінале — адзін толькі магазін „Дружба" ў 1970/71 г. прадаў іх каля 40 тыс., а падпіска газет і часопісаў у 1971 г. склала 64 тысячы экземпляраў. Кніга пералічвае творы беларускіх пісьменнікаў, перакладзеныя на польскую мову, а таксама прозвішчы пісьменнікаў, у творчасці якіх выступае польская праблематыка: М. Танк, Я. Брыль, П. Броўка, Н. Гілевіч, А. Карпюк і іншыя. Многа ўвагі прысвячаецца абмену мастацкімі калектывамі, рэпертуарам драмтэатраў і кіно (у 1965—1971 гадах у БССР прадэманстраваны 64 польскія, а ў ПНР — 16 беларускіх фільмаў). У той жа перыяд амаль па 560 студэнтаў праходзіла практыку ў вузах абедзвюх краін, сярод іх — настаўнікі беларускай мовы са школ Беласточчкага ваяводства. Ва ўмацаванні дружбы вялікую работу праводзіць прэса, радыё і тэлебачанне — прыводзяцца шматлікія прыклады. Адзначаецца таксама дзейнасць розных таварыстваў, у тым ліку БГКТ, музеяў, спартыўных клубаў.

У цэлым кніжка складае добры пачатак даследавання пасляваенных беларуска-польскіх суадносін.

**Ул. Юзвюк**

*) А. Ясінскі. Сябры-інтэрнацыяналісты. Мінск 1973, ст. 173, ц. 23 кап.

## Куток практычных ведаў




### ПЛАШЧЫ НА „БАБ'Е ЛЕТА"



Замест дарагіх і не надта практычных плашчоў з артальёну, у якіх людзі мерзнуць, калі становіцца холадна і прэюць, як толькі пацяплее, прамысловасць у апошні час пачала прадукаваць лёгкія, зручныя плашчы з элана-баваўны. Гэта сапраўды ўданая тканіна, яна не надта мнецца і вельмі лёгка мыецца хатнім спосабам. Аб тым, як вельмі патрэбны яны ў жаночым гардэробе, сведчаць у апошні час вуліцы нашых гарадоў і мястэчак, на якіх відаць усё больш жанчын апранутых у такія плашчы.

Плашчы такога тыпу былі вельмі модныя калісьці, у 30—40 гады, і многія жанчыны яшчэ напэўна іх памятаюць з таго перыяду. Гэтыя плашчы заўсёды маюць спартыўны фасон і адрозніваюцца толькі рознымі дэталямі. Адны бываюць з карчыкам, другія — без яго. Могуць мець вялікія накладныя кішэні, альбо кішэні закрытыя. На плячах могуць мець яны пагоны і паткі на рукавах, зашпіленыя на гузікі, але могуць быць і гладкія, без ніякіх „вайсковых" акцэнтаў.

Дзяўчаты, зразумела, выбіраюць плашчы як найбольш аздобныя, з вялікімі кішэнямі, з рознымі стэбноўкамі. Дарослыя жанчыны любяць больш спакойныя фасоны, без усялякіх дадаткаў. Плашчы гэтыя амаль заўсёды носяць з поясам, найчасцей з таго ж матэрыялу. Колеры плашчоў бываюць розныя: бежавыя, цёмнасінія, зялёныя, шэрыя. Найбольш модныя аднак плашчы светлабежавыя.

Для жанчын, якія шыюць самі альбо па заказу, падаем сёння некалькі версій гэтай практычнай вопраткі. Плашч такі можна пашыць не толькі з элана-баваўны, але і з папліна, які на дадатак намнога таннейшы.

Плашч можна шыць на тоненькай падкладцы, альбо без падкладкі (тады лягчэй яго будзе мыць). Такі плашч можна насіць у халаднейшыя дні лета, будзе ён ахоўваць вопратку ад пылу і дажджу, але неабходны ён проста ў цёплыя дні восені, на „баб'е лета". Пададзеўшы падніз цёплы свіцер, можна яго будзе насіць аж да першых халадоў.



Такім чынам, хто хоча выглядаць модна і элегантна, не мусіць апранацца дорага. Дастаткова пашыць ці купіць сабе штосьці моднае і практычнае.

**Сяброўка**



# ТРЫБУНА чытачоў

## Шудзялава змяняе аблічча

Да 1965 г. крынкаўскі ГС вёў у Шудзялаве тры крамы. Змяшчаліся яны ў прыватных будынках. У жалезнай краме прадавалі і прадметы хатняй гаспадаркі, а тэкстыльная была разам з абуўной. Прадуктовая дык знаходзілася, проста сказаць, у хлеўчыку.

За мінулыя гады многа змянілася ў Шудзялаве. Крынкаўскі ГС пабудаваў вялікую прадуктовую краму з заплечным магазінам. Побач яе былі пабудаваны вясковы таварны дом, дзе змяшчаюцца аддзелы тэкстыльна - абуўны, жалезны і прадметаў хатняга ўжытку. Для іх разам ёсць вялікія магазіны. На днях была адкрыта ў Шудзялаве прасторная сталовая. Адна толькі перабудова яе каштавала больш як мільён злотых.

У гэтым жа годзе быў пабудаваны збожжавы магазін і пункт скупкі жывёлы. Пабудаваны будынак для гмінnай спулдзельчай касы, для міліцыі разам з памяшканнямі для трох сем'яў. Заканчваецца будова будынка для малачарні. Будуецца цэнтр здароўя.

Перабудаваны ў Шудзялаве вуліцы. У наступным годзе будзе будавацца пякарня, стражацкая раміза, зборная школа, лазня, дом культуры, машынная база.

А. С.

## ПАРНАСік

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### ЧАЛАВЕЧАЕ ЖЫЦЦЁ

Гадзіны ідуць, час уцякае,  
Усё ідзе наперад  
Сваім уласным маршам.  
А ты стаіш,  
Чаго чакаеш?  
Выйдзі насустрач жыццю!  
Яно руку табе падасць,  
За якую схапіцца б ты мог.  
Табе адвагі брак,  
Каб сказаць праўду,  
Што сэрца тваё чуе.  
Перамажы ты страх,  
Скажы ты тую праўду,  
Хаця б яна табе  
Здавалася страшнай.  
Ты знай, што сябе  
Перамагаць заўсёды мусіш.

**Пётр Пракапчук**  
Бельскі беларускі ліцэй

### ЯК СЕСЦІ НА СОНЦА?

Маленькая дзяўчынка,  
Што называлася Галінка,  
Сядзеўшы на пянёчку,  
Капалася ў пясочку.

Аж бабуля з-за гарожы  
Выйшла, ціха кажа:  
— На сонцы нельга сядзець,  
Бо галоўка будзе балець.

А Галінка, смеючыся,  
Ледзь сказаць сумела:  
— Я ж да сонца не дастану.  
І далей у сонцы сядзела...

**Валя Анішчук**  
Гайнаўскі беларускі ліцэй

## Людзі працы ў Старым Корніне

Працавіта правялі святочны дзень 16 верасня жыхары Старога Корніна. Яны салідна працавалі грамадскім чынам пры будове новай святліцы.

Актыўна працавалі пры ўцяганні бэлек і ўкладанні плытак Рыгор Ручай, Мікалай Ручай, Уладзімір Карпюк, Іван Харытанюк — працаўнік гміны, Рыгор Куптэль, Міхал Куптэль — кіраўнік малачарні, Іван Аксенцюк, Іван Баравік — шафёр у пажарнай стражы, Мікалай Несцярук, Іван Харытанюк — солтыс, Мікалай Чурак, Фёдар Хомец, Мікалай Баравік і працаўнікі гміны Іван Леўчук і Яўген Панфілюк.

На заканчэнне чыну, згодна з планам працы гуртка БГКТ у Старым Корніне, пры дапамозе праўлення аддзела ў Гайнаўцы, былі паказаны два савецкія фільмы.

**В. Бура**  
Гайнаўка

## А калі Патока атрымае?

Кожны селянін, які мае гаспадарку, плаціць на фонд развіцця сельскай гаспадаркі. Аплаты гэтыя залежаць ад колькасці зямлі. Вядома, што за гэтыя грошы гурткі сельскай гаспадаркі купляюць машыны, якія павінны зноў служыць сялянам. Па закону — гэта так, у практыцы зусім інакш. Прыклад. Спалучылі гурткі з Тапалян і Патокі. Машыны супольныя, але дзе яны працуюць? Сезон абмалотаў 1973 года: Тапаляны малоцяць на некалькі агрэгатаў, а Патока вымушана была прасіць агрэгат у Фальваркаx. Надышоў час ворыва пад азіміны. На гэты сезон зноў з Тапалян адправілі трактары ў Коматаўцы заараць цаліну, а сяляне-ўладальнікі тых жа трактараў з Патокі засталіся без нічога — хоць рыдлёўкай калупай. Апошнія трактары аруць цаліну ПФЗ, а сяляне-ўладальнікі тых жа трактараў не могуць слова сказаць. Дзе ж наша ўласнасць? Ці сапраўды гэтак павінна быць? Добра было б, каб хтосьці гэтай справай заняўся, бо што селянін гаворыць, то роўназначна з бунькай на вадзе. Прыкладаў маем столькі, што цяжка было б змясціць на ўсіх старонках „Нівы".

А мо грам. Кукля — прэзас ВЗКП (Ваяводскі саюз сельскагаспадарчых гурткоў) высветліў бы нам гэтую справу.

**М. Краўчук**

## Дапамога сельгасгуртка ў Паўлах

У вёсцы Цялушкі ёсць некалькі гаспадарак, якім трэба было памагчы ў час гарачых работ. І так яно было ў час жніва ў гэтым годзе. Вясковая партыйная арганізацыя ў Цялушках звярнулася да сельгасгуртка ў Паўлах і ён даў машыны гаспадарам, якім асабліва цяжка было з рабочай сілай, — самотным, удовам.

Трэба сказаць, што паўлаўскі сельгасгуртом наогул не пазычае гаспадарам з Цялушак машын (бо Цялушкі не належаць да Паўлаў), але ў даным выпадку зрабілі прыгожа — далі і памаглі.

**М. Матвеюк**



## Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка"!**

Жыла я на вёсцы, а цяпер цэлая наша сям'я перабралася ў Беласток. Мне 17 год. Вучуся я ў сярэдняй школе. Потым маю намер пайсці вучыцца ў вышэйшую школу. Але вось які ў мяне клопат. Я ўвогуле не люблю свайго імя — Надзя. Найгорш, калі хтосьці сярод моладзі, ды яшчэ незнаёмай, мяне па імені назаве. Мне вельмі сорамна. Калі я знаёмлюся з кімсьці новым, я гавару іншае імя. Чула я, што можна сваё імя змяніць на падобнае. Не ведаю, ці гэта праўда. Я ўжо думала называць сябе Ядзя, бо гэта найбольш падобнае, а можа можна і інакш?

Дарагое „Сэрцайка", прашу цябе хутка параіць, як гэта робіцца і дзе. Ці можна зрабіць гэта ў метрыцы?

**Надзя з Беластока**

**Надзя!** Твой клопат — гэта не клопат. Непатрэбна перажываешся. Імён брыдкіх няма. Кожнае па-свойму прыгожае. Ды, як гавораць народная прагаворка, не імя красіць чалавека, але чалавек імя. І да гэтага трэба імкнуцца. Вельмі многа маладых людзей, пераважна вось у тваім узросце, хацела б мець іншае, нейкае „моднае" імя. Але мода на такія ці іншыя імёны хутка прамінае, і зноў становяцца моднымі нейкія іншыя. І так, хацеўшы ісці з модай, дык трэба было б штораз імёны змяняць. Але калі табе ўжо так вельмі залежыць, каб інакш называцца, дык умоўна ты можаш выбраць сабе імя такое, якое найлепш табе падабаецца і, знаёмячыся з сябрамі ці сяброўкамі, так сябе называць. Да гэтага ўсе так прывыкнуць, што потым і не будуць ведаць, якое тваё сапраўднае імя. Але ў дакументах змяніць імя нельга. Няма такога закону. Ёсць толькі закон аб змене прозвішча.

**„Сэрцайка"**

## На прыпынку ПКП у Грыгораўцах

Станцыя ў Грыгораўцах змяшчаецца ў старым бараку — гэта праўда. Але таксама праўда, што чыста ў гэтым бараку і касір у касе ветлівы.

Вакол станцыі таксама парадак. Стаяць лаўкі на свежым паветры, а кругом растуць прыгожыя кветкі, якія цвітуць нават увосень і радасна глядзець на іх. Падарожны добра адчувае сябе на старой станцыі Грыгораўцы, чакаючы свайго поезда.

**Наглядальнік**

## У гэты дзень у Дубіцкай гміне

Партыйны чын у гміне Дубічы Царкоўныя быў падрыхтаваны добра. Распачаўся ён у 8 гадзін раніцы. Работа ішла пры двух адрэзках дарогі каля вёскі Вітава. Таварышы з вёсак Дубічы Царкоўныя, Тафілаўцы, Рудка трактарамі вазілі жвір на дарогу станцыя Вітава-вёска Вітава. Трактараў было 12 (у тым тры прыватныя) з розных сельскагаспадарчых гурткоў — Дубіч Царкоўных, Тафілаўцаў, Грабаўца і Рудутаў.

Нельга не сказаць пра тры гаспадарскія трактары, уладальнікі якіх вельмі стараліся ў рабоце і прывезлі сваімі сталёвымі конямі многа жвіру. Вось гэтыя гаспадары: перадавы гаспадар з вёскі Ягаднікі і ўсёй Гайнаўшчыны тав. Уладзімір Куптэль, добры гаспадар той жа вёскі Ягаднікі тав. Рыгор Назарук (ён жа солтыс вёскі і сакратар ПОП). Трэцім уладальнікам свайго ўласнага трактара з'яўляецца тав. Іван Ваппа, сын Андрэя з вёскі Доўгі Брод, таксама перадавы гаспадар у сваёй вёсцы. Людзі далёка ведаюць гэтага чалавека — ён партызан апошняй вайны.

Апрача трактараў, рабілі тры капачкі і адзін бульдозер.

На першай дарозе было зажвіравана 250 метраў дарогі. На другой дарозе — Вітава-Доўгі Брод працавалі таварышы з лясных вёсак Доўгі Брод, Война́ўка, Вярсток, Вітава, Істок, Пасечнікі і інш. Капалі яны паабапал дарогі равы, таксама і тут людзі стараліся. Ведалі, што гэта ж для сябе, што гэта яшчэ адзін крок наперад.

Выкапалі равоў даўжынёй 1.200 метраў.

Чын закончыўся ў 15 гадзін. Калі падлічылі яго вартасць, аказалася, што таварышы з Дубіцкай гміны выканалі працу на суму 307.000 зл.

Работамі ў нас кіравалі дарожнік Іван Майстровіч са сваім памочнікам Мікалаем Рашчэнка.

Разам працавала на чыне 105 членаў партыі, 37 беспартыйных, 49 асоб з моладзі — усяго 191 чалавек.

**М. Панфілюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

## Калі будзе станцыя ПКП у Белавежы?

**АДКАЗВАЕ:**  
Dyrekcja Okręgowa Kolei Państwowych w Warszawie, Biuro Inwestycji.

W nawiązaniu do notatki, zamieszczonej w tygodniku „Niwa" nr 34/913 z dnia 26.VIII.73 r. pt. „Na stacji w Białowieży" tut. Dyrekcja uprzejmie informuje: Budowa dworca Białowieża Pałac objęta była projektem planu inwestycyjnego w kolejnych latach 1971, 1972 i 1973 r.

Doceniając pilną potrzebę budowy dworca w Białowieży, przygotowano już pełną dokumentację projektowo-kosztorysową dla w/w obiektu.

Zgodnie z porozumieniem zawartym pomiędzy Prezydium Wojewódzkiej Rady Narodowej w Białymstoku i Resortem Komunikacji, Białostockie Zjednoczenie Budownictwa miało obowiązek zabezpieczyć ze swej strony wykonawstwo robót dla omawianego obiektu. W/omawiane Zjednoczenie wyznaczyło jako wykonawcę robót Bielsko-Podlaskie Przedsiębiorstwo w Bielsku Podlaskim.

Mimo potwierdzenia powyższej decyzji na spotkaniu z Ministrem Komunikacji w Komitecie Wojewódzkim PZPR w dniu 15.06.1972 r., Bielsko-Podlaskie Przedsiębiorstwo Budowlane powiadomiło nas, że w swym portfelu zleceń na rok 1973 nie umieściło budowy w/omawianego dworca z powodu braku mocy przerobowej.

W związku z tym Dyrekcja wystosowała pismo interwencyjne do PWRN w Białymstoku z prośbą o spowodowanie włączenia na r.b. budowę dworca w Białowieży do portfela zleceń BPPB w Bielsku Podlaskim. Jednak do chwili obecnej nasze interwencje nie odniosły skutku.

W tej sytuacji Dyrekcja była zmuszona przesunąć realizację budowy dworca w Białowieży na lata dalsze t.j. po roku 1975 r.

Do wiadomości: Wojewódzka Komisja Planowania Gospodarczego przy WRN Białystok.

**Naczelny dyrektor (w/z. mgr inż. Zdzisław Ćwikła — zastępca)**



## Наша пошта

**Мікалай Панфілюк**, Дубічы Царкоўныя. Дзякуем за інфармацыі і вашы добрыя весткі для рэдакцыі.

**Павел Гутнік**, ліцэй у Міхалове. Дзякуем за інфармацыю. На жаль, не можам выкарыстаць здымка. Ён вельмі прыемны па змесце, але тэхнічна не падыходзіць для газетнай рэпрадукцыі.

**Ольга Ігнацюк**, Гайнаўскі беларускі ліцэй. Верш пра восень надрукуем.

**Аляксеюк.** Інфармацыя з жыцця вашага вясковага гуртка БГКТ добрая. Думаем, што будзеце прадаўжаць супрацоўніцтва з намі.

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**  
„Opętanie" (polski), „Ballada o Cable'u Hugue'u" (USA), 30.X—4.XI.

**Чаромуха**  
„Wiem, że jesteś mordercą" (czeski), 30—31.X. „Ballada o Cable'u Hugue'u" (USA), 3—4.XI.

**Кляшчэлі**  
„Wahadło" (USA), 30—31.X. „Powrót na miejsce wypadku" (jugosł.), 1—2.XI. „Naszyjnik dla mojej ukochanej" (radz.), 3—4.XI.

**Нараўка**  
„Morderca samotnych kobiet" (NRD), „Tylko wtedy, gdy się śmieję" (angl.), 31.X.—4.XI.

**Нарва**  
„Grubasek" (rumuński), „Poszukiwany — poszukiwana" (polski), 31.X.—4.XI.

**Чыжы**  
„Nie lubię poniedziałku" (polski), „Staroświecki dramat" (radz.), 31.X.—4.XI.

**Дубічы Царкоўныя**  
„Uciekaj i daj się złapać" (węgierski), „Siedem nianiek" (radz.), 31.X.—4.XI.

**Арэшкава**  
„Rzeczpospolita babska" (polski), „Rok pierwszy" (polski), 3—4.XI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**  
„Niech bestia zdycha" (franc.), „Jezioro osobliwości" (polski), 31.X.—4.XI.

**Райск**  
„Woda życia" (radz.), „Nieznany" (polski), 31.X.—4.XI.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**  
„Szklana kula" (polski), 3—4.XI.

**Міхалова**  
„Kalejdoskop" (angl.), 30—31.X.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**  
„Ktoś za drzwiami" (franc.), „Tajemnica Aleksandra Dumasa" (czeski), 31.X.—4.XI.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**  
„Ponieważ się kochają" (rumuński), 30—31.X. „Pułapka" (polski), 1—2.XI. „Odstrzał" (polski), 3—4.XI.

**Мілейчыцы**  
„Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii" (ang.), 30—31.X. „Homolkowie na urlopie" 1—2.XI. „Odstrzał" (polski), 3—4.XI.



Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Biastockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicysci 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł. kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7.577 K-3

# Начная прыгода

На кватэру да Нямчыка пастукалі. Роўна ў тры. Якраз тады, калі яму сніўся новенькі „Фіят".

Галоўбух сарваўся з ложка. Хуценька надзеў тэпці. Спытаў:

— Хто там?

За дзвярыма маўчалі. Па целе палезлі мурашкі.

— А што, як міліцыя?" — успыхнула ў мазгу.

Цокаў гадзіннік. Нібы гузікі лічыльнікаў. Думка — бы вавёрка ў коле. „Мабыць, такі дакапаліся... Могуць без ніякай рэвізіі... Скажуць, збірайся, ды й годзе!"

Нямчык голасна гікнуў. Прыклаў да замкавай шчыліны вока. Ніхто больш не стукаў.

— Хто там? — зноў адазваўся Нямчык і прыпаў да замкавай шчыліны вухам.

— Ой! — сказаў нехта ў адказ.

— Што „ой"? — спужаўся Нямчык і адхіліўся ад дзвярэй. У калідоры нехта чхнуў. Нібы пальнулі з двустволкі.

„Думаюць хітрасцю ўзяць, — падумаў.

У калідоры заскраблі.

У Нямчыка задрыжэлі калені.

Цішыню прарвала:

„Ой... не спіцца, не ляжыцца,
І сон мяне не бярэ...."

Сэрца забілася нармальна: сусед — алкаголік...

Нямчык смела адчыніў дзверы і гаркнуў у цемру:

— Ідыёт!.. Турма за табою плача!..

**Уладзімір Кленц**

— *Напішыце пісьмо маім бацькам, а я яго падпішу.*

*Парадокс.*

### НА СВАІМ МЕСЦЫ

У маладосці мне здавалася, што з мяне выйдзе лекар. І стаў я чытаць лекцыі. Пра сны і шкоднасць курэння, пра насмарк і магчымасць жыцця на іншых планетах...

Выйду на трыбуну, разлажу свае паперкі — і пайшло-паехала...

А з залы крычаць:

— Што ён бубніць?!

Слухаў я слухаў гэтыя вокрыкі ды й вырашыў: „Ага, калі я бубню, дык, відаць, маё прызнанне — на бубне іграць".

Запісаўся ў аркестр народных інструментаў. І што б вы думалі? Цяпер па майму адрасу воплескі громам грымяць. З залы крычаць:

— Малайчына!

— Талент!

— Віртуоз!

А я рады: што значыць своечасова знайсці сваё месца ў жыцці.

**Р. Паповіч**

# НІЎКА

### СЛАБАСЦЬ

— Папенчка, у вас заўсёды так прыгожа прычэсаны валасы. Мабыць, траціце на гэта шмат часу...

— Так, так, галава — гэта мая слабасць.

### НАВОШТА

— Мне зразумела, чаму галоўны касір нашага банка ўцёк са сваёй касай у Паўднёвую Амерыку, але не разумею, навошта яму спатрэбілася жонка нашага дырэктара?

— Ён можа быць упэўнены, што дырэктар ні пры якіх акалічнасцях не стане яго шукаць.

### ГУМАР З ...

### ДВОЕ БРАХУНОЎ

Ідуць дарогаю гароднік і бляхар. Праходзяць яны ля гарода, дзе расце капуста. Вось гароднік і кажа:

— Аднойчы я вырасціў такую капусціну, што трэба было тры пары коней запрэгчы, каб вывезці яе.

Ідуць далей. Праходзяць ля царквы, і зноў кажа гароднік:

— Вач, які купал вялікі на царкве.

— Ды ці ж ён вялікі, — адказвае бляхар, — вось я зрабіў кацёл у тры разы большы за гэты купал.

— Навошта табе такі вялікі кацёл?

— А каб варыць тваю капусту.

...«Калі не можаш стаяць на нагах, трымай сябе ў руках», — разважаў п'яны.

...Узятачнік і зарплату стараўся палучаць без сведкаў.

### ВЫКРУЦІЎСЯ

Ідзе дзядзька з торбачкаю і вудачкамі ад рэчкі. А другі пасе кароў. Прывіталіся, закурылі і разгаварыліся.

— Дык шмат нясеце рыбкі?

— Ды мы шмат не носім... Возьмем для сям'і, а рэшту здаем у магазін.

— Дык вы ж яшчэ да магазіна не дайшлі... Пакажыце, які ўлоў.

— А да нас магазін выязджае на бераг.

### ЦЯЖКОЕ ЗАДАННЕ

На ўроку арыфметыкі настаўнік спытаў вучня:

— Мама пайшла на рынак купляць грушы. Скажы Васілёк, колькі яна заплаціла за тры кілаграмы, калі кілаграм каштуе дзесяць злотых.

— А хто яго ведае. Мая мама заўсёды таргуецца.

— *Спужаўся?*
— *Не. Проста голас у яе праціўны.*

## Цешчыны бліны

Зяць і цешча вельмі дружаць,
Бо радня, свае ж яны.
Прыязджае часта дужа
Зяць да цешчы на бліны.
У далоні ледзь не плешча
Зяць, пабачыўшы глячок.
У глячку бываў у цешчы
Дужа моцны крапачок.
Ён кульне адну, другую
І заўважыць: — Моцнасць — во!
Цешчу хваліць залатую
За бліны і за пітво.
— Як жа дзеткі? Як Марыся? —
Цешча кажа. — Як сям'я?
Пакаштуй бліноў, садзіся,
Для цябе пякла іх я.
— Добра ўсё пры гэтым часе,
Дзеткі слаўныя мае.
Маня робіць у гэзсе,
Ды вось грошай не дае.
Далажыў ёй так зяцёк
І спытаў: — А дзе ж глячок?
— Крапачку я не купіла
І глячок ужо разбіла.
Выбачай мне, дарагі,
Бо закон цяпер другі.
Толькі ў рот наспеў узяць,
Папярхнуўся блінам зяць.
І, не з'еўшы тых бліноў,
Ён за шапку — і дамоў.
Ёсць бліны. Дык дзе ж той зяць?
Больш не ездзіць гасцяваць.

**С. Пацёмкін**

*Анестэзія для балельшчыкаў.*

### ТУРБОТА

Суддзя дакарае пару за развод:

— Дык у вас жа двое дзяцей...

— Іх мы лёгка падзелім, пане суддзя, але куды цяжэй будзе з аўтамашынай.

### ШТО СКАЗАЎ КІНДЗЮЛІС

— Каго вы лічыце шахраем?

— Таго, хто ўкрадзе сто злотых.

— А той, што крадзе тысячу?

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Такія называюцца камбінатарамі.

*НОВЫЯ ПАТЭНТЫ.*

*Іголка для двайнога шва.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Рэнаты Жукоўскай і Галіны Стэльмах з Чарэмхі Гайнаўскага павету змяшчаем песню з рэпертуару Е. Паломскага:

## Bo z dziewczynami

**Słowa: Andrzej Bianusz**
**Muzyka: Stefan Rembowski**

Bo z dziewczynami nigdy nie wie,
oj, nie wie się,
czy dobrze jest, czy może jest,
może jest już źle.
Spokoju się spodziewać czy też przejść,
czy szukać jej,
czy jej z oczu zejść?
Bo z dziewczynami nigdy nie wie,
oj, nie wie się,
czy dobrze jest, czy może jest,
może jest już źle.
Czy najważniejszy jesteś w życiu jej,
czy znaczysz już od kogoś mniej?...

A wszystko tak pewne prawie,
jak listek na wietrze, w trawie ślad,
jak latem zerwany w trawie dmuchawiec,
gdy zawieje wiatr.
To wszystko tak pewne właśnie,
jak ten nad wodą dym...
One całe są,
One całe są
w tym!

Bo z dziewczynami nigdy nie wie,
oj, nie wie się,
czy dobrze jest, czy może jest,
może jest już źle.
I jaka będzie przez najbliższe dni,
przygarnie cię
czy zatrzaśnie drzwi?
Bo z dziewczynami nigdy nie wie,
oj, nie wie się,
czy dobrze jest, czy może jest,
może jest już źle.
Nie będziesz wiedział, czy jest tak, czy tak
i to jedyny pewny fakt...

Jeszcze rok,
jeszcze dzień —
przekonacie się o tym sami,
jak to jest,
jak to jest
z dziewczynami!

Bo z dziewczynami nigdy nie wie...

# МІНІБАЙКІ

### БАЙКА З ПРОЗВІШЧАМІ

Рабочыя Іваноў, Пятроў, Сідараў здзейснілі працоўны подзвіг. Стаў дырэктар думаць, — як іх вылучыць. Думаў, думаў і дадумаўся: нейк няскромна вылучаць іх з усяго калектыву цэха. А калектыў цэха — з усяго завода... А завод — з усяго раёна... А раён — з усёй вобласці, усёй краіны...

Назаўтра Іванова, Пятрова, Сідарава на заводскіх варотах чакаў плакат:

„Няхай жыве рабочы клас усяго свету!"

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**

# Курёзы

### КАВА СУПРАЦЬ ЧАЮ

У тыя далёкія часы, калі кава і чай — гэтыя дзіўныя заморскія напіткі — яшчэ толькі пачыналі ў Еўропе ўваходзіць ва ўжытак, вучоныя спрабавалі рознымі метадамі высветліць іх дзеянне на арганізм чалавека.

Арыгінальны эксперымент быў праведзены ў XVIII стагоддзі ў Швецыі па прапанове лейб-медыка караля Густава III.

У адной са шведскіх турмаў сядзелі два браты-блізнюкі, асуджаныя за забойства на пажыццёвае зняволенне. Турэмная адміністрацыя загадала ўключыць у рацыён іх харчавання каву і чай. Адзін з братоў павінен быў штодзённа выпіць чайнік чаю, а другі — такую ж порцыю кавы.

Усіх цікавіла пытанне: хто ж з братоў падзе першай ахвярай „ядавітых напіткаў?" Штодзённа бюлетэнь паведамляў грамадскасць аб ходзе своеасаблівага „матча". Але ніхто не думаў, што спаборніцтва зацягнецца так доўга.

Праходзіў год за годам, а блізнюкі-вязні захоўвалі зайздросны стан здароўя.

Тым часам пачалі паміраць вучоныя і лекары, якія пачалі рэдкі эксперымент. І вось ужо не засталося ў жывых ніводнага чалавека, зацікаўленага ў яго выніку.

І ўсё ж кава аказалася пераможцам: чалавек, які піў на працягу ўсіх гэтых год чай, памёр першым, праўда, ужо ў даволі паважным узросце. Ён дажыў да 84 год. Зрэшты, невядома, колькі б ён жыў, калі б не піў ніводнага з гэтых напіткаў.

# Між нам!

**Выбіцца ў людзі — гэта яшчэ не значыць быць сярод людзей.**